# ГЕРОЙ — ЧАЛАВЕК ПРАЦЫ

За апошнія гады ў Англіі выйшаў у свет цэлы рад раманаў, якія паказваюць або закранаюць у той ці іншай меры жыццё рабочага класа. Англійскі часопіс «Марксізм тудэй» адзначае, што найбольш значныя з гэтых раманаў пераканальна дэманструюць «беднасць, аднастайнасць і пустату таго ладу жыцця, які прапануе рабочым сучасная Англія. Пісьменнікі вобразамі, якія яны ствараюць, даюць адказ усім, хто лічыць, што справы ў большасці англічан дастаткова добрыя, таму што цяпер голад і беспрацоўе меншыя, чым у 30-я гады».

П'еса Джона Асборна «Азірніся ў гневе» (1956 г.) падказала англійскім літаратурным крытыкам назву для новага літаратурнага руху, што ўвайшоў цяпер у гісторыю англійскай літаратуры як рух «разгневаных» (або «злосных»). У гэтым руху яшчэ шмат няяснага. Ён не абапіраецца ні на якія пэўныя пласты, а выказвае настрой бесперспектыўнасці, што авалодаў даволі многімі прадстаўнікамі розных слаёў «квітнеючай» дзяржавы. «Разгневаныя» яшчэ не бачаць той барыкады, на якой ім варта было б памерці», — піша аб іх «Дэйлі Уоркер».

У некаторых раманах «разгневаных» і адлюстравана жыццё рабочых сучаснай Англіі. Найбольш удалым з іх з'яўляецца ўжо шырока вядомы савецкаму чытачу раман Джона Брэйна «Месца наверсе». Герой рамана Джо Лэмптон, выхадзец з рабочага асяроддзя, дамагаецца «поспеху» ў жыцці жорсткай цаною — цаною адмаўлення ад чалавечнасці, цаною страты сапраўднага шчасця. Брэйн надзвычай пераканальна паказвае, што высокая мараль і «поспех» узаемна выключаюць адно аднаго ў буржуазным грамадстве. У рамане прысутнічае і пэўны станоўчы ідэал. Гэта той класавы рабочы фон, — нябожчык бацька Джо, яго цётка Эмілія, рабочыя, якія вызначаюцца высокай сумленнасцю, непадкупнасцю, — што служыць нібы эталонам для вызначэння чалавечай годнасці Джо. Брэйн сваім раманам зноў сцвярджае тыя чалавечыя каштоўнасці, якія пагражае разбурыць пацуковая грызня за «поспех» у буржуазным свеце.

Раман другога «разгневанага», Каліна Макінеса, «Абсалютныя навічкі» менш значны. Герой яго, юнак, уцякае з роднага дому, бавіць час у кампаніі прастытутак, гандляроў наркотыкамі, прадажных паліцэйскіх, п'е, дэбашырыць. Грошы ён здабывае продажам парнаграфічных паштовак і наркотыкаў. У канцы рамана ён, ужо рабочы, раптам пранікаецца антыфашысцкай свядомасцю і ўдзельнічае ў выступленні супраць расавай дыскрымінацыі ў лонданскім раёне Ноцінг-Хіл. Можна, вядома, усумніцца ў псіхалагічнай правамернасці падобнага пераўвасаблення героя. І сам герой, і іншыя рабочыя выступаюць у рамане зусім пазбаўленымі пачуцця класавай салідарнасці. «Чытаючы Макінеса, не ўяўляеш сабе, што народ можа быць арганізаванай сілай», — характарызуе пісьменніка англійскі крытык-марксіст Арнольд Кетл.

Куды большай сацыяльнай акрыленасцю адрозніваюцца героі Алана Сілітоу. Артур Сітон, герой рамана «Суботні вечар і нядзельная раніца», малады рабочы, вядзе ўклад жыцця, тыповы для тысяч маладых заводскіх рабочых Англіі. Ён усведамляе сябе членам адзінай рабочай сям'і, зусім не саромячыся гэтага, ненавідзіць урад, дзяржаўны лад, а заадно і ўсе традыцыйныя каштоўнасці. Але Артур Сітон прапаведуе такую нескладаную філасофію: трэба «рабіць грошы», а потым траціць іх як хочаш (напрыклад, на інтрыжкі адразу з дзвюма замужнімі жанчынамі). Палітычна ён зусім інертны, таксама як і рабочыя, што акружаюць яго, — старыя і маладыя. Анархізм, п'янства і грубасць, раўнадушнасць да вялікіх чалавечых каштоўнасцей, — вось што характарызуе герояў гэтага рамана Алана Сілітоу.

Відны прагрэсіўны англійскі пісьменнік Джэймс Олдрыдж неяк зазначыў, што па сваіх поглядах Сілітоу — сапраўднейшы анархіст. Да такой ступені анархіст, што адмаўляе літаральна ўсё і ненавідзіць «іх», а «яны» — гэта прадстаўнікі не толькі любой улады, але і любога кіраўніцтва: ці гэта ўрад, прафсаюзныя кіраўнікі ці ўласнікі прадпрыемстваў». Аднак «ён увесь час вучыцца, і той факт, што ён не перастае вучыцца і цяпер, калі да яго прыйшла вядомасць, унушае надзею, што ён можа ў будучым стаць выдатным пісьменнікам».

Раман Алана Сілітоу «Ключ да дзвярэй», які нядаўна выйшаў, дае некаторыя падставы меркаваць, што спадзяванні Олдрыджа апраўдваюцца. Герой гэтага твора Брайен Сітон — старэйшы брат Артура Сітона з «Суботняга вечара і нядзельнай раніцы». Падрабязна апісана ў рамане жыццё Брайена: ранняе дзяцінства, што супала з гадамі цяжкай эканамічнай дэпрэсіі і другой сусветнай вайны, і юнацтва, што прыпала на першыя пасляваенныя гады, калі Брайен становіцца рабочым на фабрыцы. Потым ён завербаваны ў англійскую армію і накіраваны ў Малайю для барацьбы за брытанскае панаванне.

На працягу ўсёй кнігі Алан Сілітоў падкрэслівае арганічнасць класавай свядомасці свайго героя, які вызваліў камуніста, што трапіў да яго ў палон. Брайен пераконваецца, што яму варта вярнуцца на радзіму і стаць барацьбітом супраць класа, які знявечыў яго маленства. Аднак у яго захоўваюцца яшчэ і многія рысы брата Артура.

Раман «Ключ да дзвярэй» быў цёпла прыняты прагрэсіўнай крытыкай. У ім, упершыню ў творы «разгневанага», мы сустракаем рабочага, у вобразе якога ёсць гераічны пачатак, і абумоўлены ён барацьбой за справу свайго класа.

Задачу праўдзівага адлюстравання жыцця англійскага рабочага класа спрабуюць вырашыць англійскія пісьменнікі-камуністы.

Марго Хейнеман у рамане «Шукальнікі прыгод» расказвае пра лёс трох юнакоў. Дэн Оўэн, выхадзец з сям'і валійскіх вугальшчыкаў, стаў журналістам. Паступова ён пранікаецца ідэямі кіруючага класа і парывае са сваімі былымі прагрэсіўнымі перакананнямі. Сябра яго маленства, Томі, застаўся ў рабочым асяроддзі. Ён прафсаюзны актывіст, але палітыка яго зусім не цікавіць. Трэці юнак, Рычард, становіцца камуністам. Калі два першыя героі ўдаліся аўтару, дык гэтага нельга сказаць пра Рычарда. З глыбокай сімпатыяй ставіцца да яго Хейнеман, але вобраз яго застаўся мастацкі непераканальны. У рамане ён выступае барацьбітом-адзіночкам, адзіным прадстаўніком сваёй партыі.

У творах Джэка Ліндсея тэма рабочага класа раскрываецца ў больш шырокім, грамадска-гістарычным плане. У вялікім, яшчэ не закончаным цыкле раманаў «Аб шляхах сучаснай Англіі», з якіх савецкаму чытачу вядомы пакуль два — «Вясна, якой здрадзілі» і «Твой дом», Ліндсей малюе барацьбу лонданскіх докераў, тэкстыльшчыкаў з Йоркшыра, глыбокія інтэрнацыянальныя сувязі рабочых Англіі, якія імкнуцца знайсці шлях у барацьбе за лепшую будучыню. Мы бачым, як у дэмакратычны лагер пераходзяць і лепшыя прадстаўнікі англійскай буржуазнай інтэлігенцыі. На старонках яго раманаў сустракаем мы запамінальныя вобразы камуністаў. Гэта Джыль Уэзерс («Час выбару»), Боб Калверт і Джэні Робертс («Твой дом»). Само жыццё, сувязь з простымі работніцамі вучаць Джыль Уэзерс, пашыраюць яе кругагляд, выхоўваюць перакананні. Боб Калверт — умелы і дзейсны, чулы да людзей, арганізатар, памагае знайсці сваё месца ў барацьбе Джэні Робертс.

Англійскі крытык-камуніст Ральф Фокс, камісар англа-ірландскага батальёна інтэрнацыянальнай брыгады ў Іспаніі, які загінуў у 1937 годзе, у сваёй кнізе «Раман і народ», (ён так і не паспеў яе закончыць) патрабаваў ад новага пісьменніка «добрага», г. зн. перадавога, светапогляду і таксама абавязкова «ўмення добра расказаць сваю гісторыю». Ён жа першы ў англійскай прагрэсіўнай крытыцы паставіў перад літаратурай задачу стварэння станоўчага героя. Ён пісаў, што літаратура павінна паказаць «чалавека ў дзеянні, які імкнецца змяніць умовы жыцця, падпарадкаваць сабе жыццё, ...здольнага стаць гаспадаром уласнага лёсу. Гэта значыць, што гераічны пачатак павінен вярнуцца ў раман».

Патрабаванням Ральфа Фокса адпавядае кніга рабочага-маляра Роберта Трэсала «Філантропы ў падраных штанах», якая выйшла ў 1955 годзе. У кнігі незвычайны лёс. Яна была напісана яшчэ да першай сусветнай вайны і апублікавана ў 1914 годзе, пасля смерці аўтара, у вельмі скарочаным і скажоным выглядзе. Рукапіс прапаў і толькі зусім нядаўна быў знойдзены і выдадзены цалкам прагрэсіўным выдавецтвам «Лоўрэнс энд Уішарт».

Раман прысвечан апісанню жыцця і працы англійскіх рабочых, тых, хто сваімі рукамі стварае ўсе багацці краіны. Герой рамана Оўэн іранічна называе рабочых філантропамі, таму што большую частку вынікаў сваёй працы аддаюць яны капіталістам. Оўэн шмат раздумвае над становішчам людзей свайго класа і становіцца сацыялістам. Яго сацыялізм, несумненна, абмежаваны эпохай стварэння рамана. Аднак заслугаю Трэсала з'яўляецца стварэнне мастацкі пераканальнага вобраза станоўчага героя. Яго Оўэн — не схема, а паўнакроўны жывы чалавек ва ўсёй яго індывідуальнай своеасаблівасці. Яго любоў да сына, думкі пра дзяцей усяго свету, за будучыню якіх ён у адказнасці, падтрымліваюць Оўэна ў самыя цяжкія хвіліны жыцця. Да канца застаецца ён верным інтарэсам барацьбы за шчасце свайго народа.

«Сапраўды краевугольны камень сацыялістычнага рэалізму ў Вялікабрытаніі быў закладзены рабочым Робертам Трэсалам у яго неўміручым рамане «Філантропы ў падраных штанах», — так ахарактарызавана значэнне гэтай кнігі ў англійскім прагрэсіўным крытычным зборніку «Эцюды аб сацыялістычным рэалізме і брытанскай культурнай традыцыі».

Марго Хейнеман у сваім артыкуле «Пісьменнікі і рабочыя» называе імя Трэсала ў ліку пісьменнікаў, у якіх павінны вучыцца тыя, хто хоча стварыць рэалістычныя творы пра рабочы клас.

**К. РУКШЫНА.**

Дзяржаўны мастацкі музей БССР папоўніўся новымі экспанатамі — карцінамі рускіх мастакоў. Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікае карціна І. Рэпіна «Партрэт Андрэевай». Каля гэтага твора заўсёды ёсць аматары мастацтва.

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ. На астрашыцкім возеры.
Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

## КОНКУРС НА ЛЕПШУЮ МАСТАЦКУЮ ПАШТОЎКУ

Дзяржаўнае выдавецтва БССР аб'явіла адкрыты конкурс на лепшую мастацкую паштоўку. Ставіцца мэта — стварыць высокія па сваіх ідэйных і мастацкіх якасцях палітычныя, віншавальныя, жанравыя, гумарыстычныя і дзіцячыя паштоўкі, а таксама асобныя тэматычныя серыі (не менш трох назваў у кожнай серыі).

Прысланыя на конкурс паштоўкі павінны адлюстроўваць барацьбу савецкага народа за ажыццяўленне Праграмы КПСС і гістарычных рашэнняў XXII з'езда партыі, дасягненні ў будаўніцтве камунізма, барацьбу за мір, дружбу народаў, новае ў жыцці савецкіх людзей.

Арыгіналы пасылаюцца наклеенымі на кардон памерам не больш двухразовага павелічэння звычайнай паштоўкі ў гатовым выглядзе (148×105 мм). Яны могуць быць выкананы гуашшу, акварэллю, тэмперай, а таксама ў тэхніцы гравюры і лінагравюры. Арыгіналы, якія не адпавядаюць гэтым умовам, або выкананыя па дагаворах з іншымі выдавецтвамі, журы конкурсу не разглядае. Работы прадстаўляюцца на конкурс у закрытых пакетах пад дэвізамі, напісанымі на пакеце, арыгінале і на ўкладзеным у пакет заклееным канверце з прозвішчам і адрасам аўтара.

Апошні тэрмін прадстаўлення арыгіналаў на конкурс 15 студзеня 1963 года.

За лепшыя арыгіналы мастацкіх паштовак устаноўлены прэміі.

За лепшыя серыі паштовак: адна першая прэмія — 200 рублёў, дзве другія — па 150 рублёў, дзве трэція — па 100 рублёў, тры заахвочвальныя — па 50 рублёў.

За лепшыя паштоўкі: адна першая прэмія — 150 рублёў, адна другая — 100 рублёў, дзве трэція — па 75 рублёў, тры заахвочвальныя — па 30 рублёў.

За прэміраваныя і прынятыя выдавецтвам для друку паштоўкі выплачваецца ганарар па існуючых стаўках.

Паштоўкі на конкурс высылаюцца па адрасу: г. Мінск, Ленінскі праспект, 79, Дзяржвыдавецтва БССР «На конкурс».

# ПАДЫМАЦЬ ЦАЛІНУ ЖЫЦЦЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

нае, тое, што павінна быць на першым плане, адсоўваецца на другі. Таму што новае, тое, што нараджаецца сёння ў жыцці, не трапляе ў іх поле зроку.

Кідаецца ў вочы тэматычная вузкасць, аднастайнасць вырашэння тэм і задум. Складаецца ўяўленне, быццам адлюстроўваецца тое, што першым трапіла на вока. І больш таго — быццам мастакі глядзяць адзін на аднаго, а не на жыццё. Возьмем хоць бы такі прыклад: на тэмы збору бульбы і будаўніцтва азотна-тукавага камбіната працуюць аднačасова некалькі аўтараў. У партрэтах розных мастакоў — адны і тыя ж персанажы. Але і адна і тая ж тэма можа быць вырашана па-рознаму, бо тэма сама па сабе яшчэ нічога не вырашае, трэба яе напоўніць зместам, выбраць цікавы сюжэт, адным словам, трэба думаць і адчуваць — цікава, самастойна. А адкуль яна будзе тая арыгінальная думка, тыя глыбокія пачуцці, калі няма штодзённай накіраванасці «эцюднай сілы» на сучаснасць.

Мне давялося пабачыць работы «Гродна будуецца» М. Плужніка і «Будаўнікі мікрараёна» В. Савіцкага.

На першай з іх — асветленая сонцам панарама новых гмахаў. Па сутнасці — эцюд, павялічаны да памераў карціны. Традыцыйны матыў. Аналагічных вырашэнняў тэмы будаўніцтва нямала і ў іншых гродзенскіх мастакоў. Напрыклад, у эцюдах А. Коха, дзе горад служыць другім планам для ўскраіннага сельскага пейзажу, або ў эскізах «Будаўніцтва азотна-тукавага камбіната» А. Арнаутава і «Першыя пад'язныя да азотна-тукавага» таго ж В. Савіцкага.

Другая карціна — В. Савіцкага — скампанавана так, што этыкетка з назвай тут не абавязковая. Сэнс і значэнне яе пазнаюцца адразу, яны куды шырэй таго, што можа ўкласціся ў два словы «Будаўнікі мікрараёна».

...Зіма. Марознае жоўта-аранжавае неба. Ад новых дамоў, што на другім плане, на гледача ідуць праз неабжыты пакуль што пустыр будаўнікі — юнакі, дзяўчаты, пажылыя. Тут, на гэтым пустыры, іхнімі рукамі будзе збудаваны новы квартал. Так, гэта і архітэктура нашага часу і, галоўнае, — людзі нашага часу. З сумы непрыкметных на першы погляд дэталей (адзенне, прычоскі, будаўнічая тэхніка і да т. п.) ствараецца непаўторны каларыт сённяшняга дня. Гэта не будаўнікі, скажам, першых пасляваенных год...

Наколькі можна меркаваць па каларытных, «гучных» па фарбах партрэтных эцюдах да кампазіцыі, В. Савіцкі пры выбары тыпажу праявіў зацікаўленыя адносіны да персанажаў. Характэрныя твары будаўнікоў, натуральныя рухі...

Наўрад ці варта спрачацца, які з двух падыходаў да тэмы больш плённы. Зразумела, той, у якім на першым плане — чалавек. І, гаворачы аб пошуках новых вырашэнняў, нельга не папракнуць таго ж В. Савіцкага, калі ён пачынае эксплуатаваць аднойчы знойдзены цікавы прыём у розных работах. У яго нямала цікавых пейзажаў. Прыгадаем хоць бы «Майскую зелень». Выклікае, аднак, пярэчанне празмернае захапленне мастака ў шэрагу пейзажаў аднастайным сінім колерам. Часам гэты сіні празмерна «ядавіты» і, будучы пракладзены ў вадзе, не пасуе да агульнага каларыту пейзажа, а часам у зусім розных пейзажах пры розных станах прыроды на пяньках, напрыклад, пракладваецца аднолькавы блакітны. Гэткае самапаўтарэнне, калі мастак падыходзіць да натуры з загадзя гатовай палітрай, у той жа час з'яўляецца не чым іншым, як ігнараваннем натуры, што не менш кепска, чым прымітыўнае фатаграфаванне яе.

Падобна В. Савіцкаму, адмаўляецца ад традыцыйных матываў і традыцыйных вырашэнняў тэм малады мастак К. Пятроў, які надае вялікую ўвагу думцы твора. Пры ўсіх недахопах чыста тэхналагічнага парадку ў работах К. Пятрова, не ў аднолькавай меры завершаных, прываблівае наяўнасць акрэсленай, аб'ядноўваючай тэмы: перамога новага побыту над старым, імклівае ўваходжанне новага ў нашае жыццё, яго перавага над тым, што аджыло свой век. Мажорна гучаць поўныя кантрастаў, багатыя святлом лісты «Гродна. Раён новабудоўляў», «Новы квартал», «Будні над Нёманам». Гродна паўстае ў іх ва ўсёй велічы — з мастамі і новабудоўлямі, з моладдзю і рабочым класам, з сучаснай архітэктурай і празрыстым паветрам над імклівымі рэйкамі чыгункі... І ўсё гэта, у адрозненне ад многіх іншых кампазіцый, узята буйна, першым планам, ва ўсім багацці фарбаў.

У В. Савіцкага, К. Пятрова, як і ў пейзажах І. Пушкова, выразнае індывідуальнае бачанне жыцця і імкненне выказаць гэтае індывідуальнае бачанне. Адлюстраванага імі, знойдзенага імі ў рэчаіснасці не замяніць ніякая фатаграфія, якая часам паспяхова замяняе пейзажыстаў — аматараў ілюстратарскіх панарам будоўляў, ілюстратарскіх пейзажаў і ілюстратарскіх партрэтаў. Бо ў лепшых работах названых мастакоў у наяўнасці працэс спецыфічна мастацкага пазнання рэчаіснасці, які не падменіш фатаграфічным рэпартажам.

Ілюстрацыйнасць, фактаграфічнасць у мастацтве — як правіла, прыкмета нейкай унутранай ляноты, абыякавасці або імкнення ісці лягчэйшым шляхам. Гэтым жа тлумачацца і пабудовы кампазіцый, пры якіх чалавечыя фігуры бяруцца ў такіх памерах і ракурсах, калі не абавязковая распрацоўка душэўнага стану персанажа. Напрыклад, тыя ж варыянты збору бульбы ў шэрагу аўтараў, аб якіх гаварылася вышэй. Гэта ж датычыцца і многіх партрэтаў. У большасці з іх павярхоўныя характарыстыкі, статычныя позы, нейтральны фон. Знешнія атрыбуты нярэдка падмяняюць глыбокую псіхалагічную распрацоўку. Мала выкарыстоўваюцца магчымасці кампазіцыйнага і каларыстычнага вырашэнняў, выразнасць чалавечых рук. Чалавек як асоба, а не як натуршчык, павінен цікавіць мастакоў. Партрэт таксама, як і кампазіцыя, павінен быць насычан дзеяннем, не абавязкова знешнім, але ўнутраным — абавязкова.

І вельмі правільна робяць і Д. Стаpалаўнікаў, і В. Савіцкі, і А. Кох, і К. Вісловіч, якія больш актыўна сталі працаваць над кампазіцыйным партрэтам.

Іменна ўнутраны стан дзяўчынкі-трэцякласніцы, над партрэтам якой працуе К. Вісловіч, або калгаснага вартаўніка, які пішацца В. Савіцкім, кранае нас у гэтых работах. Перад намі і індывідуальныя асобы, трапна характарызаваныя, і ў той жа час абагуленыя вобразы.

Гродзеншчына, з яе прыгажосцю краявідаў, кантрастамі мінулага і сённяшняга, размахам будаўніцтва, тымі тэмпамі, з якімі ўваходзіць у яе жыццё новая тэхніка, новы быт, нарэшце з яе цудоўнымі людзьмі, як быццам наўмысна створана для мастакоў. Толькі пішы, толькі не заставайся абыякавым рэгістратарам, не бясстрасна пералічвай з'явы, а пастаўся да іх душэўна, удумліва, усхвалявана.

І калі глядзіш на створанае за апошнія гады і на тое, што ствараецца гродзенскімі мастакамі цяпер, і супастаўляеш багатае і шматграннае жыццё вобласці з яго адлюстраваннем на жывапісных палотнах, міжволі прыгадваеш вядомую ісціну: шлях да адлюстравання новага — не пратаптаныя сцежкі. Гэтыя сцежкі мастакі мінулага (нават нядаўняга) пратоптвалі, вырашаючы свае задачы, пастаўленыя перад імі іх часам. Але сапраўдныя мастакі ніколі не ішлі слепа за сваімі папярэднікамі, хоць у тыя часы рэчаіснасць не мянялася так імкліва, як у наш час.

Сучасны мастак, вучачыся ў класікаў, павінен ісці цалінай жыцця.



Рэчыца. Так выглядае сёння адзін з кварталаў горада, дзе знаходзіцца новы кінатэатр «Беларусь».
Фота Ч. МЕЗІНА. (БЕЛТА).

# У НАШЫХ СЯБРОЎ

### НА ЭКРАН ВЫХОДЗЯЦЬ НОВЫЯ ФІЛЬМЫ

На будынку пекінскага шпіталю «Сэ хэ» на здзіўленне жыхароў зноў паявілася шыльда: «Штаб па ўрэгуляванню ваенных пытанняў». Гэты штаб існаваў у гады антыяпонскай вайны ў Кітаі. Перад варотамі шпіталю стаяць на пасту... юнак у форме байца праслаўленай 8-й арміі, якая была асноўнай узброенай сілай у барацьбе кітайскага народа супраць японскіх імперыялістаў, гаміньданаўскі і амерыканскі салдаты. Вакол шуміць група пекінцаў, якія ажыўлена каменціруюць здымкі новага мастацкага фільма «Пасля спынення ваенных дзеянняў». Новая кінакарціна адлюстроўвае падзеі 1946 года, калі гаміньданаўская рэакцыя, вераломна парушыўшы пагадненне аб спыненні ваенных дзеянняў паміж народнай арміяй і чанкайшысцкімі войскамі, абапіраючыся на падтрымку амерыканскіх імперыялістаў, разгарнула наступленне на вызваленыя раёны краіны.

Другая карціна, якая знаходзіцца ў рабоце, вытворчасці кінастудыі «Ба І», раскажа гледачам аб вызваленні часцямі народна-вызваленчай арміі Кітая вострава Хайнань пры дапамозе мясцовых рыбакоў. Нядаўна адтуль вярнулася група кінематаграфістаў, якая завяршыла натурныя здымкі.

Калектыў Шанхайскай кінастудыі «Хайянь» распачаў здымкі поўнаметражнага мастацкага фільма «Хуа кідае нажы». Новая кінакарціна пазнаёміць аматараў кіно з жыццём артыстаў папулярнай цыркавой трупы «Ішэн-бань» у старым Кітаі, раскажа аб іх першым выступленні пасля вызвалення краіны і новым жыцці пры народнай уладзе.

«Пошукі скарбаў возера Тайху» — другая кінакарціна, якую ствараюць цяпер кінематаграфісты студыі «Хайянь». У плане шанхайскіх кінастудый «Хайянь» і «Цяньма» намечана таксама выпусціць сёлета пяць камедыйных фільмаў і дзве кінакарціны, прысвечаныя спартыўнаму руху ў краіне.

### ТЭЛЕБАЧАННЕ І РАДЫЁ СПАБОРНІЧАЮЦЬ

За першае паўгоддзе працоўныя Венгрыі набылі звыш 59 тысяч тэлевізараў і каля 50 тысяч радыёпрыёмнікаў. У цяперашні час у 10-мільённай Венгрыі зарэгістравана каля 2 мільёнаў 336 тысяч радыёпрыёмнікаў і 266 тысяч тэлевізараў.

### ПРЫГАЖЭЕ ЧАРНАМОРСКАЕ ЎЗБЯРЭЖЖА

Румынскае ўзбярэжжа Чорнага мора, дзе адпачываюць дзесяткі тысяч зарубежных турыстаў, сёлета прыгожае, як ніколі.

Цудоўны пейзаж добра гарманіруе з сучаснай і смелай лініяй вялікіх гасцініц, рэстаранаў і цэлых ансамбляў дамоў адпачынку, пабудаваных у мінулым годзе. У гэтым сезоне тут выраслі новыя вялікія будынкі. Пры ўездзе ў Мамаю — самы буйны з іх — гасцініца «Парк» — 14-павярховы гігант з бетону і шкла вабіць позіркі сваім стройным сілуэтам.

Мастакі пад кіраўніцтвам таківх вядомых майстроў, як Аляксандру Чукурэнку, Жуль Перахім, Мак Канстанцінеску, талевіта афармілі новыя будынкі. Прасторныя холы гасцініц упрыгожаны пано з мазаікі або графіту з керамічнымі інкрустацыямі.

### ЗАВОДСКІЯ «ЯГУАРЫ»

Ці ведаеце вы, што трынаццаць заводаў у Польскай Народнай Рэспубліцы штогод выпускаюць 700 тысяч веласіпедаў. З гэтай колькасці паўмільёна машын выпускае адзін толькі Быдгашскі велазавод — буйнейшае прадпрыемства ва ўсёй краіне.

Сорак тыпаў веласіпедаў — ад дзіцячых да суперсучасных «Ягуараў» і «Ураганаў» выпускае Быдгашскі завод. Першыя зрабілі «кар'еру» на апошняй велагонцы свету. Веласіпедысты многіх краін лічаць, што «Ягуар» — найлепшая гоначная машына ў свеце.

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ТАВАРЫШЫ КАСМАНАЎТЫ!

«20 песень аб савецкіх касманаўтах» — у заметцы пад такім загалоўкам газета «Рудэ права» паведамляла сваім чытачам аб тым, што, пачынаючы з 12 жніўня мінулага года, чэхаславацкія кампазітары і паэты склалі дваццаць песень аб героях космасу.

Першая песня, напісаная журналістам Паўлам Пацлам і кампазітарам Яраславам Гнілічкам («Добры дзень, маёр Гагарын!»), хутка заваявала велізарную папулярнасць у Чэхаславакіі. Затым паявіліся іншыя песні, прысвечаныя савецкім зоркалётчыкам — Гагарыну, Цітову, Нікалаеву, Паповічу.

Апошняя — дваццатая з новых песень — «Касмічны карабель», паведаміла «Рудэ права», прагучала днямі па радыё.

Але жыццё дапоўніла гэтую газетную інфармацыю. Аўтар тэксту самай першай песні аб Юрыю Гагарыну чэхаславацкі журналіст Павел Пацл, які цяпер знаходзіцца ў Маскве, напісаў новую песню аб савецкіх касманаўтах, а музыку да яе склаў маскоўскі кампазітар Алег Шыманоўскі.

І гэтая 21-я песня прагучала ў перадачы Маскоўскага радыё для Чэхаславакіі. Дададзім, што выконваў новую песню чэхаславацкі артыст Мілан Марцін. Акампаніравалі яму савецкія музыканты.

(АДН).

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Г. Р. ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры — 3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры — 3-22-04, выдавецтва — 3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу



АТ 01273.

Друкарня выдавецтва «Звязда».